# Дыскусійная трыбуна

*Пазіцыя*

## Інтэграцыя — шлях да прагрэсу і незалежнасці

**Сцяпан ЯНЧУК,**
**міністр фінансаў Рэспублікі Беларусь.**

Як у нас ужо павялося, з набліжэннем чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі зноў наспяваюць палітычныя страсці, некаторыя грамадскія аб'яднанні разгортваюць шумныя кампаніі супраць выканаўчай улады, і перш за ўсё супраць урада. Для гэтага выкарыстоўваюцца разнастайныя каналы, у ход пускаюцца ўсялякія сродкі.

Не здрадзілі сваёй традыцыі лідэры рада аб'яднанняў і на гэты раз. Напярэдадні маючай адбыцца сесіі парламента яны прадпрынялі масіраваныя атакі на ўрад у прэсе, спрабуючы ўнушыць людзям думку, што праводзімая ўрадам эканамічная палітыка несур'ёзная, што яна, маўляў, садзейнічае страце суверэнітэту і незалежнасці рэспублікі. Як бачна, няма ў гэтай "песні" новых мелодый. Не знойдзеце ў гэтых "дамашніх нарыхтоўках" доказнага аналізу, аргументаў, акрамя эмоцый і набору традыцыйных абвінавачванняў у здрадзе нацыянальным інтарэсам.

Асабліва жорсткім нападкам падвяргаюцца канкрэтныя крокі ўрада па ўзнаўленню і пашырэнню эканамічных сувязей Беларусі і Расіі, збліжэнню грашовых сістэм абедзвюх дзяржаў. Довад супраць гэтага раней-шы — паставіць рэспубліку ў поўную залежнасць ад усходняга суседа.

Пры гэтым, праўда, не адмаўляецца сама магчымасць уступлення Беларусі ў саюзніцкія адносіны з іншымі дзяржавамі, толькі вось саюзы гэтыя "павінны быць без палітычнай афарбоўкі".

Застаецца толькі здзіўляцца: ці гэта абяззбройваючая палітычная наіўнасць, ці ўмела ўтойваемая спекуляцыя, разлічаная на недасведчаных.

Пазіцыя ўрада ў тым і заключаецца, што збліжэнне эканамічных патэнцыялаў абедзвюх дзяржаў, іх сумесныя дзеянні па пераадоленню крызісных з'яў у эканоміцы могуць быць сапраўдным гарантам умацавання нацыянальных суверэнітэтаў. І калі б гэта пазіцыя была заснавана толькі на эмоцыях, наўрад ці знайшла б яна падтрымку ў большасці насельніцтва Беларусі. Цяпер працаўнікі розных галін народнай гаспадаркі выказваюцца за ўмацаванне эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, з іншымі дзяржавамі былой "рублёвай зоны".

Інтэграцыйныя працэсы маюць рэальныя прадпасылкі. Нашы вучоныя-эканамісты сцвярджаюць, што ў выпадку поўнага разрыву гаспадарчых сувязей паміж дзяржавамі былога Саюза Расія можа забяспечыць аўтаномную вытворчасць 65 працэнтаў свайго канчатковага прадукту, Украіна — 15, Казахстан — 27, а Беларусь — толькі 4 працэнты. У той жа час пастаўкі з Расіі забяспечваюць Украіне 67 працэнтаў канчатковага прадукту, Казахстану — 52, Беларусі — 84.

А вось некаторыя ацэнкі сумеснага даследавання беларускіх вучоных і вучоных Інстытута народна-гаспадарчага прагназіравання Расійскай Акадэміі навук. Пры зніжэнні паміж дзяржавамі ўзроўню эканамічных сувязей на 10 працэнтаў аб'ём канчатковага прадукту скароціцца ў Расіі на 3,8 працэнта, на Украіне — на 4,2, у Казахстане — на 6,6, у Беларусі — на 9,7 працэнта. Залежнасць канчатковых вынікаў развіцця эканомікі Беларусі ад яе знешніх сувязей намнога мацнейшая, чым роўных ёй па эканамічнаму патэнцыялу Узбекістана і Казахстана і нават вышэй такіх дзяржаў, як Грузія, Азербайджан, Арменія, Літва, Латвія.

Як бачна, для Беларусі праблема захавання і далейшага развіцця міжрэспубліканскіх эканамічных сувязей асабліва актуальная. Людзі на практыцы штодзённа спазнаюць цану цесных эканамічных сувязей паміж дзяржавамі і іх суб'ектамі гаспадарання.

Разуменне неабходнасці інтэграцыі пануе не толькі на дзяржаўных прадпрыемствах. Нядаўна прынята рашэнне ў падтрымку гэтай лініі на пасяджэнні Клуба дырэктараў Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў. А гэта прадстаўнічы орган кіраўнікоў недзяржаўных структур.

У праціўнікаў інтэграцыі палітычныя настроі, прага ўлады бяруць верх над цвярозым сэнсам, над усведамленнем вынікаў распаду.

Што азначае сёння для Беларусі не ўвайсці ў стварaемую рублёвую сістэму новага тыпу? Зона ж любой валюты вызначаецца плацежна-разліковымі адносінамі групы краін з найбольш развітымі паміж сабой эканамічнымі адносінамі. Як правіла, лідэрства тут утрымлівае тая дзяржава, якая мае большы эканамічны патэнцыял. Сёння для большасці краін СНД расійскі рубель застаецца базавай валютай. Гэта важна і для Беларусі з яе пераважным аб'ёмам гандлёва-эканамічных сувязей з Расіяй (на долю Расіі прыпадае 57 працэнтаў вывозімай з Беларусі прадукцыі і 67 працэнтаў — завозімай, на долю Украіны — адпаведна 23 і 20 працэнтаў, Казахстана — 5 і 4 працэнты).

Першачарговае месца пры ўвядзенні нацыянальнай валюты ў любой дзяржаве адводзіцца вырашэнню праблемы бюджэтнага дэфіцыту. Высокі ўзровень дэфіцыту бюджэту ўскладняе матэрыяльна-фінансавую незбалансаванасць эканомікі і ўзмацняе інфляцыю. Замежны вопыт пераконвае, што забяспечыць стварэнне ўласнай валютнай сістэмы можна пры ўзроўні бюджэтнага дэфіцыту 2—3 працэнты да валавога нацыянальнага прадукту. У нас на сёння (і, паводле разлікаў, у наступным годзе) гэты паказчык перавышае дапушчальны ўзровень амаль у 2 разы. У справе падтрымання курсу нацыянальнай валюты немалаважнае значэнне маюць такія складаемыя, як стан плацежнага балансу, узровень і тэмпы інфляцыі, стабільнасць функцыяніравання валютных рынкаў. Гэта надзвычай складаныя праблемы, якія за кароткі перыяд не вырашыць. Мы працуем над імі, і толькі пасля іх вырашэння можна ставіць пытанне аб увядзенні сваёй валюты.

На жаль, ні па адной з гэтых важных праблем у супрацьлеглага боку няма канструктыўных прапаноў.

Неабходна нагадаць, што ў свеце ёсць суверэнныя, незалежныя дзяржавы, у якіх няма сваёй валюты, яны выкарыстоўваюць грашовыя адзінкі іншых краін. І нічога, іх эканоміка паспяхова развіваецца.

Аналіз цяперашняй сітуацыі падказвае, што выхад з эканамічнага саюзу дзяржаў СНД, супраціўленне працэсу інтэграцыі грашовых сістэм Беларусі і Расіі азначалі б выпадзенне з асобай эканамічнай прасторы. Што азначае адысці цяпер ад Расіі, калі наш эканамічны патэнцыял так цесна звязаны з ёю? На сёння ж няма ніякіх прадпасылак для таго, каб эканоміка Беларусі без сувязей з Расіяй змагла выдаваць канкурэнтаздольную на сусветным рынку прадукцыю пераважна навукаёмістых вытворчасцей, рэсурсазберагаючых, эколагаахоўных тэхналогій. Але ж толькі такая прадукцыя дазволіць дзяржаве набываць па-за Расіяй стратэгічныя матэрыяльна-сыравінныя рэсурсы.

Для нас аб'ядноўваючыя тэндэнцыі з Расіяй — гэта шлях сумесных структурных пераўтварэнняў эканомікі. Прайсці гэты шлях разам будзе куды лягчэй, чым паасобку. І для нас, і для Расіі.

Прайшоўшыя некалькі гадоў, калі дзяржавы СНД спрабавалі самастойна выбрацца з эканамічнага крызісу, многаму навучылі. Мы стаім перад неабходнасцю развіваць эканамічныя сувязі з усімі дзяржавамі ва ўсіх частках свету. Але і губляць іх з бліжэйшымі суседзямі было б вельмі неразумна і нявыгадна.

Ставячы мэту стварыць эканамічны саюз, вядома, ніхто і не думае аб аднаўленні былога Саюза. Новы эканамічны саюз грунтуецца выключна на прынцыпах, якія забяспечваюць суразмерную эфектыўнасць вытворчасці кожнай краіны. Утрыманства адных дзяржаў за кошт другіх сёння не пройдзе, адносіны павінны быць узаемавыгаднымі. Пытанне стаіць так: альбо ўсё насельніцтва Беларусі сваёй працай, сваімі часовымі ахвярамі і з дапамогай разумнай інтэграцыйнай палітыкі, абапіраючыся на эканамічны саюз і праграму структурных пераўтварэнняў эканомікі, на працягу 2—3 гадоў створыць умовы для наступнай мацнеючай апоры на ўласныя рэсурсавы і кадравы патэнцыял у развіцці народнай гаспадаркі, альбо мы асуджаны на доўгія гады марнага існавання.

І ў гэтым сэнсе мы не можам быць падобнымі да тых манахаў-схімнікаў, якія, заканчваючы свой жыццёвы шлях, выракаюцца гэтага свету, робяцца затворнікамі, удзень і ўначы молячыся аб чысціні душы сваёй. З тым і паміраюць.

Такім чынам, глыбокі крытычны аналіз сацыяльна-эканамічных працэсаў у бліжэйшым замежжы і ў нас паказвае, калі адкрыта глядзець праўдзе ў вочы, не крывадушнічаць, што галоўнай стратэгічнай лініяй у эканамічным развіцці рэспублікі павінна быць лінія на інтэграцыю эканомік краін СНД і ўмацаванне з дапамогай гэтага палітычнага і эканамічнага суверэнітэту Беларусі. Для гэтага неабходна ажыццявіць паслядоўную структурную перабудову эканомікі, садзейнічаць яе ўсямернай адкрытасці для іншых дзяржаў, весці шырокі пошук эфектыўных рынкаў паліўна-энергетычных і сыравінных рэсурсаў і рынкаў збыту нашай прадукцыі.

Такая стратэгія дазволіць ва ўмовах актыўнага станаўлення рыначных пачаткаў дамагчыся рэзкага зніжэння рэсурсаёмістасці матэрыяльнай вытворчасці і невытворчай сферы, прыцягнення ў нашу эканоміку замежных інвестыцый, паскорана нарошчваць экспартны патэнцыял.

Сёння ў свеце няма эканамічна незалежных дзяржаў. Вялікія прамысловыя дзяржавы ЗША і Японія настолькі ўзаемазалежныя, што іх эканомікі разбіў бы параліч у выпадку разрыву эканамічных сувязей. Яны ж захоўваюць не толькі сваю палітычную незалежнасць, але і з'яўляюцца палітычнымі сапернікамі ў многіх аспектах. Аднак гэта ім зусім не перашкаджае паглыбляць эканамічную інтэграцыю.

Хацелася б спадзявацца, што на маючай адбыцца сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі народныя дэпутаты адыдуць ад палітычнага супрацьстаяння, сканцэнтруюць свае намаганні на вырашэнні актуальных сацыяльна-эканамічных праблем, якія складаюць аснову для выхаду Беларусі, яе грамадзян на новы жыццёвы ўзровень.

*Пункт гледжання*

## Цярпенне народа не бязмежнае

**Пётр ЦІШУК,**
**першы намеснік старшыні Пінскага гарвыканкама**

Не так даўно ўрад рэспублікі, без шырокага абвяшчэння, "парадаваў" усіх нас чарговым клопатам пра павышэнне дабрабыту — падняў цэны. На гэты раз рэзка падскочыў кошт мяса. І, дзякуй нашаму Саўміну, сёння за мінімальную заработную плату можна купіць аж 3 (тры) кілаграмы ялавічыны!

Прычым закупачныя цэны на гэтую прадукцыю амаль не ўзраслі, а значыць, жывёлаводы не атрымалі стымулу для павелічэння яе вытворчасці і адпаведна нас проста адразаюць ад паліц магазінаў, паколькі з-за нізкай пакупніцкай здольнасці просты чалавек вымушаны будзе адмовіцца ад набыцця мяса. Як ён зможа звесці, як кажуць, канцы з канцамі — невядома.

Нічога не сказана пра гэта і ў заяве кіраўніка ўрада В.Ф.Кебіча, якая надрукавана ў рэспубліканскіх газетах 6 кастрычніка г.г., дзе з уласцівай сціпласцю канстатуецца, што "да фінішу года мы прыйдзем з добрымі вынікамі". Вячаслаў Францавіч аддае належнае тым, хто такія вынікі забяспечыў. Проста слёзы на вочы наварочваюцца, калі чытаеш наступнае: "Ад імя ўрада, ад сябе асабіста я хачу сардэчна падзякаваць сялянам за гэты працоўны подзвіг, а таксама сказаць дзякуй гараджанам, рабочым прамысловых прадпрыемстваў за дапамогу і падтрымку сельскай гаспадаркі".

Безумоўна, і вяскоўцы, і гараджане падзяку заслужылі. І не толькі за працоўны подзвіг па выратаванню ўраджаю. Яны змаглі ва ўмовах развалу эканомікі неяк падтрымліваць жыццядзейнасць рэспублікі.

Усе гэтыя і іншыя праблемы павінны вырашацца ў цесным узаемадзеянні з рэспублікамі былога СССР, з якімі наша шматпакутная Беларусь звязана вельмі моцна. Але ў сённяшняй сітуацыі, калі рэспублікі сталі незалежнымі краінамі, у аснову ўзаемаадносін трэба класці эканамічныя інтарэсы, а не старыя, дырэктыўныя падыходы. Гэта да сучаснага моманту не зроблена, а значыць, не створаны і падмурак для будаўніцтва ўзаемаадносін на новых падставах.

"Велізарныя намаганні ўрад і я, як Старшыня Савета Міністраў, прыкладалі і будзем прыкладаць для ўмацавання Садружнасці Незалежных Дзяржаў", — сціпла адзначае ў вышэйпамянёнай заяве В.Ф.Кебіч і аптымістычна дадае: "Мы падышлі непасрэдна да стварэння эканамічнага саюзу і цвёрда перакананы ў тым, што толькі за кошт аб'яднання можна аднавіць абарваныя гаспадарчыя сувязі, вывесці эканоміку з крызісу, пазбегнуць росту беспрацоўя".

Цвёрдасць Вячаслава Францавіча, на мой погляд, катэгорыя пераменная. Адзін раз ён гаворыць, што ў Віскулях не мог спрагназіраваць наступстваў ад стварэння СНД, другі — што ўмацоўваў і будзе ўмацоўваць гэту Садружнасць, трэці — што да фінішу года ідзём з добрымі вынікамі, чацвёрты — што эканоміка ў крызісе... Тут, канешне, простаму чалавеку, які не вельмі дасведчаны ў палітыцы і эканоміцы, разабрацца цяжка.

Але ў рэшце рэшт хацелася б ведаць, што мае на ўвазе Старшыня Саўміна, калі гаворыць пра "аб'яднанне"? Калі вяртанне да былога Саюза ССР, дык трэба так і казаць. Ва ўсякім выпадку, народ хацеў бы ведаць мэту ўрада. Калі ж гэта будзе нешта новае і карыснае, дык усё роўна не абысціся без карэннага змянення палітыкі ў сферы фінансаў, без перабудовы структуры эканомікі на новай аснове. Просьбы, з якімі наш урад часцяком звяртаецца да ўрада Расіі за бакалам шампанскага, могуць быць неяк апраўданы ў бытавой сферы. На ўзроўні міждзяржаўных адносін яны, як паказвае наш двухгадовы эсэндэўскі вопыт, станоўчых вынікаў не даюць.

І таму не выпадкова, а заканамерна, што Рэспубліка Беларусь усё далей і далей спаўзае да сітуацыі, калі народ не стане больш цярпець тых нечалавечых умоў жыцця, у якіх ён апынуўся па віне сваіх кіраўнікоў. Тым больш што нашаму ўраду будзе значна цяжэй, чым ураду Расіі, знайсці вінаватага ў сённяшнім крызісе. Калі былы расійскі Вярхоўны Савет сапраўды ўсяляк перашкаджаў ходу рэформаў, дык нашы рахманыя народныя выбраннікі да гэтага часу прымалі ўсе прапановы ўрада, заплюшчвалі вочы на ўсе яго промахі і правалы.

Сапраўды, хіба ж можна лічыць сур'ёзнай апазіцыяй тыя трыццаць дэпутатаў на чале з З.С.Пазьняком, якія, нягледзячы на ўсе свае намаганні, не могуць правесці ніводнага рашэння? Хіба ж можна ўсур'ёз успрымаць дзейнасць таго дэпутата, які, як партызан, заняў кругавую абарону і б'е і па адных, і па другіх і не бачыць іншага выйсця, акрамя вяртання СССР альбо стварэння з Расіяй адзінай дзяржавы. Таму, як ні круці, адказваць за разбурэнне Радзімы, за жабрацкае жыццё яе народа давядзецца камандзе В.Ф.Кебіча, хаця, канешне, не перад сённяшнім Вярхоўным Саветам і не ўсім у аднолькавай ступені. Бо і зараз ва ўрадзе ёсць талковыя спецыялісты, думаючыя і энергічныя людзі, аднак, на жаль, не яны вызначаюць палітыку Саўміна.

Мне асабіста незразумела і пазіцыя Старшыні Вярхоўнага Савета, які зараз проста ўпускае сітуацыю з-пад кантролю. Урад адкрыта парушае законы, рашэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, і ў гэтых умовах С.С.Шушкевіч робіць выгляд, што нічога страшнага не адбываецца. У чым прычына? Ці Станіслаў Станіслававіч не ведае, як жыве народ, ці проста не хоча абвастраць адносіны з кіраўніцтвам Саўміна?

"Народная газета" 7 кастрычніка г.г. паведаміла пра "жорсткую размову", якая адбылася паміж прадстаўнікамі апазіцыі ў Вярхоўным Савеце і С.С.Шушкевічам, дзе першыя патрабавалі ад Станіслава Станіслававіча, каб ён скарыстаў сваё канстытуцыйнае права і склікаў нечарговую сесію Вярхоўнага Савета. С.С.Шушкевіч спаслаўся на тое, што не падрыхтаваны яшчэ адпаведныя законапраекты, іншыя дакументы.

Пры ўсёй сімпатыі да Станіслава Станіслававіча ў гэтай сітуацыі не магу з ім пагадзіцца. Па-першае, чаму Старшыні не ўзяць на сябе ініцыятыву склікання сесіі, калі становішча ў рэспубліцы сапраўды крытычнае?! Па-другое, на нечарговую сесію зусім не абавязкова выносіць шырокае кола пытанняў. Дастаткова прыняць тыя рашэнні, якія на сённяшні дзень стаяць найбольш востра. Па-трэцяе, у народзе спее незадаволенасць умовамі жыцця, якія ўсё больш пагаршаюцца, і гэта можа прывесці да непрадказальных вынікаў. Нельга бясконца выпрабоўваць "памяркоўнасць" нашых людзей.

Органам мясцовай улады кожны дзень даводзіцца сустракацца з рабочымі і сялянамі, пра якіх так расчулена пісаў у сваёй заяве В.Ф.Кебіч. Маю смеласць сказаць, што мы, прадстаўнікі мясцовых улад, ведаем іх настроі. Яны яшчэ церпяць. Іх пакуль яшчэ можна ашукаць спасылкамі на стварэнне эканамічнага саюзу. Але ў рэшце рэшт людзі разбяруцца, чаму гэты саюз не створаны, чаму шматлікія кантакты кіраўнікоў рэспублікі з кіраўнікамі іншых суб'ектаў былога СССР не даюць рэальных вынікаў і што гэтаму перашкаджае.

Наперадзе зіма. На месцах нестае топачнага мазуту для абагрэву дамоў, аб'ектаў сацкультбыту, бензіну і саляркі, многіх прадуктаў харчавання, няма грошай для іх набыцця, для крэдытавання будаўніцтва жылля. І ў гэтых умовах урад заяўляе, што да фінішу года мы "прыйдзем з добрымі вынікамі". І Вярхоўны Савет з гэтым згаджаецца і маўчыць...

*Хочу ответить*

Уважаемая редакция "Народной газеты"! Автор вступления к статье собственного корреспондента газеты "Сельская жизнь" А.Гуляева "Мафия бессмертна" (13 октября 1993 г.) совершенно напрасно оправдывался передо мной. Горькую пилюлю незачем подслащивать словесным дриблингом.

Касаясь того же вступления, хочу сказать: мне приятно, что в "Народной газете" помнят "той дзень, калі Аляксандр Лукашэнка стаў у абарону рэдакцыі ад неабгрунтаванай крытыкі". И, конечно, неприятно, что тот же коллектив редакции не смог защитить того же Лукашенко от ушата грязи, вылитой на меня А.Гуляевым.

Я понимаю, что время для публикации выбрано не случайно. Именно сейчас Временная комиссия о деятельности коммерческих структур, которые действуют при республиканских и местных органах власти и управления, которую Верховный Совет поручил возглавить мне, заговорила, начала предавать гласности кое-какие факты из грязной деятельности власть имущих. Связь между этими событиями отыскать нетрудно. Нетрудно также догадаться, что статья А.Гуляева — первый упреждающий удар, несомненно, за ним последуют другие.

## Предательство — оно, как и мафия, бессмертно

"...вось тут і спасцігла маладога дырэктара тая самая хваля поспеху. Яна падхапіла Лукашэнку неяк разам і панесла, устойліва ўтрымліваючы на грэбні. Метад "Гарадца" пачалі вывучаць дэлегацыі не толькі з вобласці і рэспублікі, але і з самых розных куткоў краіны.

Словам, шчаслівая зорка яго, нібы ракета, выпушчаная ўмелай рукой і ў патрэбны час, ярка ўспыхнула на небасхіле і гарэла роўным святлом...

Многія з чытачоў, відаць, памятаюць яго імклівы ўзлёт. Газеты, радыё, тэлебачанне — суцэльны феерверк пашаны. Не кожнаму ўсміхаецца такое шчасце. А потым — раптоўная няміласць. І ўсё таму, што праявіў самастойнасць, паспрабаваў змагацца за сваю ідэю, не падобную на мадэль, створаную высокімі кіраўнікамі... Таму, хто прыйдзе потым, будзе лягчэй пасля Лукашэнкі..."

Именно так писал А.Гуляев совсем недавно в своей книге "Паварот" о Лукашенко. Ситуация повторилась: герой тот же, автор тот же, а слова другие. Хочу спросить: когда же вы, уважаемый спадар Гуляев, были искренним — тогда или теперь?

Расточая похвалы, вы старались почаще быть рядом со мной. Подготовив гнусный удар, вы действовали исподтишка, стукнули в спину.

Сначала скажу о содержании сочинения "Мафия бессмертна". Я представлен в нем разбойником, кулачным директором совхоза. "Избить смертных механизаторов" и остаться безнаказанным — несправедливо. Это гуляевская логика. Но именно Гуляев должен хорошо помнить "те времена, когда он (Лукашенко.— **Авт.**) выдвигался в народные депутаты и против него тоже было возбуждено уголовное дело" по заявлению механизатора, которого якобы избил директор — кандидат в депутаты. Правильно, было такое в цепи многих действий, направленных против меня людьми, услуживающими райкомам партии. Тогда Гуляев на страницах многих газет неопровержимо доказал, что уголовное дело было сфабриковано, чтобы не допустить избрания меня народным депутатом.

Когда же вы, Гуляев, писали и говорили правду — тогда или теперь? Прежде чем касаться "резких перемен" курса Александра Лукашенко, надо было оценить и "резкую перемену" курса журналиста Гуляева, вызванную конъюнктурой в незамутненном виде.

Более того, у вас появилась новая болезнь — забывчивость. Вы забыли о том, что тот обиженный механизатор спустя полгода был упрятан за решетку за избиение до полусмерти своего коллеги.

Вы также не сказали о том, что после водворения этого же механизатора в тюрьму на руках директора осталось пятеро его детей, проживавших с матерью в сарае (домом их жилище не назовешь). И вы напрочь "забыли", что Лукащенко построил и подарил этой семье дом, а механизатор, "заканчивая положенный срок", просит директора принять его на работу...

В профессии журналиста, на мой взгляд, самый страшный прием — выворачивание фактов наизнанку.

Именно в эту крайность впал журналист Гуляев, защищая бывшего начальника милиции А.Якимцова. Последний предстает едва ли не жертвой преследований депутата Лукашенко. Автор представляет дело таким образом, будто сей "великий начальник" не захватывал около двух гектаров земли вблизи райцентра для своей дачи, будто подполковник Якимцов не держал на своей "фазенде" батраков из числа осужденных, будто не они для Якимцова разводили кроликов, кормили лошадей, кур, доили коров.

Никто не опроверг материалов следствия о том, что бывший начальник, арестовывая условно осужденных, посылал их за сотни километров в Гомельскую область, чтобы привезти оттуда породистых кроликов для случки самок, находившихся на откорме у начальника милиции.

Вот таков вариант современного рабства в милицейской форме. Именно его пытается оправдать волей-неволей Гуляев с целью побольнее ударить Лукашенко.

Что касается затянувшегося следствия по делу Якимцова, то это его заслуга. Господин бывший начальник милиции собирает подписи в свою защиту, отправляет жалобы в Верховный Совет, где пытается представить себя беззащитным кроликом.

И пошло-поехало... Появилось много желающих, подобно "следователю по особо важным делам Могилевской областной прокуратуры Владимиру Потапову, успешно проработавшему в свои 40 лет в следственных группах Прокуратуры СССР", обелить бывшего начальника местной милиции. Вы же пошли еще дальше, пытаясь у читателей "Народной газеты" выдавить слезу, рассказав про "убитого горем" бывшего начальника милиции, у которого суды не берут иски о "защите чести и достоинства". Но вы забыли, что защищать можно только то, что есть у тебя, а во-вторых, очнитесь, господин Гуляев, обидеть в нашем суде могут только беззащитную гражданку Иванову, а не мафиозных начальников.

И последнее в истории с Якимцовым. Свой демарш в его защиту вы предприняли на глазах тысяч шкловчан, знающих цену бывшему начальнику. И да рассудят они нас!

Что касается моей позиции по отношению к России, то она не так примитивна, как пытается представить ее Гуляев. Она направлена в первую очередь на тесное взаимодействие с великой страной во имя богатства и процветания Беларуси. А такой компромат в мой адрес ("выступал на одних митингах с З.Позняком") ничего, кроме улыбки, не вызывает. По-моему, важно не то, с кем выступал, а что говорил.

В потоке обвинений есть упрек о "весьма среднем совхозе", которым я руковожу. Да, он средний, но был ведь лежачим. Вам ли не знать этого!

Статья меня потрясла, я и теперь не могу избавиться от горечи, разочарования. Нет, не "фактами", не слогом, не гуляевским знанием творчества Корнея Чуковского... Чтобы читатель понял глубину переживаемого, скажу: Анатолий Гуляев для меня — не просто собкор московской газеты. Он относился к тем людям, с которыми я, как говорят в народе, пил и ел из одной чашки, "болел общими проблемами", делился самым сокровенным, сидел у его койки, когда он лежал в больнице после тяжелой автокатастрофы.

Анатолий, помнишь моего меньшего сына, Димку? Он, к счастью моему, так далек от "грязной политики" и теперь каждый день у меня спрашивает: "Папа, как он (то есть ты, Анатолий) мог? Ведь вы были друзьями..."

Найди, пожалуйста, в себе мужество и ответь ему, но не по-бандитски, как ты поступил в отношении его отца, а глядя ему в глаза.

И последнее. Тебе, Анатолий, скоро пятьдесят. И ты не можешь не знать, что больше всего люди, на которых рассчитано твое сочинение, ненавидят предательство, даже если за него платят, и платят немало...

P.S. Мафия непобедима не только потому, что в ней кто-то нуждается, а еще и потому, что в обществе среди нас есть "гнусные люди", которые вместо борьбы с этим злом остервенело воюют против тех, кто хоть как-то пытается бороться против этой мафии...

**Александр ЛУКАШЕНКО,**
**народный депутат Республики Беларусь, председатель Временной комиссии Верховного Совета Республики Беларусь о деятельности коммерческих структур, которые действуют при республиканских и местных органах власти и управления.**

*Открытое письмо*

## С преступностью борются не языком...

*Народному депутату Республики Беларусь Лукашенко А.Г.*

Александр Григорьевич! Обратиться к Вам с открытым письмом через газету меня вынудило то, что за последнее время Вы неоднократно обвиняли меня, при этом публично, в неблаговидных поступках, бездеятельности, сокрытии чьих-то преступных деяний. Все это высказывалось в оскорбительных тонах, затрагивающих мою честь офицера, сотрудника правоохранительного органа.

Считаю, что Ваша критика совершенно бездоказательна. Заявляю, что никогда не был "карманным начальником", не покрывал никаких и чьих бы то ни было преступлений. Да что тут говорить... Поверьте, даже после Ваших оскорблений я не стал бы Вам отвечать, но за мною стоит коллектив сотрудников вверенного мне управления, работающих напряженно, профессионально, зачастую с риском для жизни и чью честь Вы тоже задели.

Александр Григорьевич, борьба с преступностью, хотите Вы этого или не хотите, идет — и не потому, что кто-то к ней примазывается, хочет сделать на этом себе авторитет. Борьба идет жесткая. Противостоящая нам сторона не гнушается в ней ничем, но основная их задача — это сковать деятельность сотрудников органов, опорочить их, деморализовать. В ход идут сплетни, домыслы, угрозы. То же мы порой слышим, простите, и от Вас. Это что — позиция или Вас подставляют Ваши несостоятельные помощники, пользующиеся "надежными" источниками информации с гродненского рынка, а может быть, до них специально доводят "нужные" сведения?

Как Вы можете судить о работе управления КГБ, никогда не поинтересовавшись этим ни у меня, ни у моих коллег? Вашим же помощникам мы дали самый минимум информации, на что есть веские основания.

К вопросу о Вашей компетентности в поднимаемых проблемах нашей деятельности. Представьте себе, что в руководимый до недавнего времени Вами совхоз приехал я и стал поучать Вас и Ваших специалистов, как сеять, доить коров и кастрировать бычков. Что бы Вы обо мне подумали? Почему же Вы, не будучи специалистом, пытаетесь поучать нас? Мы ведь тоже профессионалы, нас учили в специальных учебных заведениях, по открытым и закрытым для широкого пользования учебникам, которых Вы и в руках не держали. Десятками лет мы накапливали опыт. Да и своей работе и Отечеству преданы не меньше Вас.

Извините, но Ваши советы порой смешны для нас. Чего стоят Ваши заявления о том, что Вы контролируете ход расследования одного очень важного уголовного дела и пытаетесь давать нам указания, где проводить обыск и т.п. Вы не имеете на это права и не пытались даже поинтересоваться ходом расследования. За нами осуществляется надзор теми, кому положено, и он принципиальный и строгий. Ваши заявления по этому поводу — чистая демагогия, рассчитанная на несведущих, для поднятия дутого авторитета.

По поводу угроз, что Вы снимете меня с работы, поясняю. Мне не страшно, нас редко поощряют, а гораздо чаще "снимают". Мы привыкли, так как практически все преступники, соприкасаясь с нами, грозят: "сниму погоны", "выгоню", "выйду, из-под земли достану" и т.п. Странно, что и Вы туда же гнете. Не Вы меня назначали и не Вам меня снимать. Хотите показать, какими полномочиями наделены? Что ж, показывайте.

Публично Вы обвинили меня, что я уклонился от участия в проводимом Вами в Гродно широком совещании по борьбе с преступностью. Не оправдываясь, замечу: отсутствовал не самовольно, был очень занят по работе, далеко от Гродно, о чем Вы могли бы очень легко узнать. Не жалею, что так случилось, так как убежден, что на широких заседаниях с преступностью не борются. Язык — это далеко не то оружие, да и рассказывать в широком кругу, как мы боремся с преступностью, было бы глупо с моей стороны.

Мне мои коллеги, другие знающие люди советовали обратиться с иском в суд в отношении Вас, но я не стану этого делать. Некогда мне судиться с Вами, нет времени, очень много работы. Пусть совесть будет Вам судьей.

**Леонид СТЕПАНЕНКО,**
**начальник управления КГБ Республики Беларусь по Гродненской области.**

### *Ад рэдакцыі.*

**У прадмове да свайго артыкула А.Лукашэнка напісаў: "Я понимаю, что время для публикации (карэспандэнцыі А.Гуляева. — Рэд.) выбрано не случайно. Именно сейчас Временная комиссия о деятельности коммерческих структур, которые действуют при республиканских и местных органах власти и управления, которую Верховный Совет поручил возглавить мне, заговорила, начала предавать гласности кое-какие факты из грязной деятельности власть имущих. Связь между этими событиями отыскать нетрудно. Нетрудно также догадаться, что статья А.Гуляева — первый упреждающий удар, несомненно, за ним последуют другие."**

**Што тут сказаць? Можа, у народнага дэпутата А.Лукашэнкі і ёсць рацыя на такія заявы, але да рэдакцыі "Народнай газеты" гэта не мае ніякага дачынення. Мы не разумеем, як гэта можна было адмовіць А.Гуляеву ва ўласным пункце гледжання. Як не дапускаем і таго, што можна адмовіць і А.Лукашэнку надрукаваць адказ апаненту. Як не адмаўляем таксама начальніку ўпраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці Леаніду Сцепаненку звярнуцца з адкрытым лістом да А.Лукашэнкі. Дарэчы, мы азнаёмілі Аляксандра Рыгоравіча яшчэ з шэрагам лістоў яго апанентаў, якія паступілі ў рэдакцыю.**

**Мы баімся аднаго: каб старонкі "Народнай газеты" не ператварыліся ў месца разборак, каб замест добразычлівай крытыкі не выліваліся "ушаты грязи" на тых, з кім аўтары спрачаюцца. Словам, мы за палеміку, за плюралізм думак, але супраць славеснай эквілібрыстыкі, супраць таго, каб "Народная газета" выкарыстоўвалася як зброя для барацьбы ва ўласных інтарэсах.**

